КАЛІ ІМІДЖ

PAUSE

СТАНОВІЦЦА ЎСІМ

СТАР. 4-5

# ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET

ПАКУПНІК, АТРЫМЛІВАЕЦЦА,

ЗАЎСЁДЫ ЛОХ?

СТАР. 6-7




БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА 19.04.12-25.04.12 г.

# ШТО СТАІЦЬ ЗА ВЫЗВАЛЕННЕМ "ПАЛІТЫЧНЫХ"

У праваслаўны Вялікдзень, 15 красавіка, быў выпушчаны на волю Дзмітрый Бандарэнка, каардынатар "Еўрапейскай Беларусі" і давераная асоба былога кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава.

### ЗНОЎ ПРА КАТАВАННІ

Сам Саннікаў апынуўся на волі напярэдадні — 14 красавіка. Бандарэнка да апошняга не верыў, што яго выпусцяць следам за сваім калегам: думаў, давядзецца чакаць як мінімум яшчэ два тыдні — да магчымага вяртання паслоў еўрапейскіх краін у Беларусь. Аднак здараюцца і ў нас рэчы, падобныя на цуд.

Саннікава і Бандарэнку сустракалі ў Мінску кветкамі і радаснымі воклічамі.

> "На працягу ўсяго тэрміну свайго знаходжання ва ўладзе ён рабіў стаўку на рост даходаў насельніцтва і, адпаведна, на так званую народную любоў, якая, як сведчаць апошнія даследаванні НІСЭПД, нявечная".




*Не факт…*

Абодва не пабаяліся зноў сказаць пра ролю Камітэта дзяржаўнай бяспекі ва ўласных лёсах. Па прызнанні Бандарэнкі, ад яго супрацоўнікі камітэта патрабавалі кантролю над сайтам "Хартыя'97", а таксама адмаўлення ад рэдагавання каментараў на вэб-старонцы. Дзмітрый таксама заявіў, што не збіраецца развітвацца з грамадзянскай дзейнасцю.

Андрэй Саннікаў таксама быў і застаецца рашучым, хоць пакуль што ўстрымліваецца ад агучвання сваіх планаў. Тым не менш ім была прамоўлена досыць цвёрдая фраза: "Мая адсідка скончылася ў верасні, пасля былі катаванні".

На момант падпісання гэтага нумара ў свет (19 красавіка – В.А.) паўстае шэраг пытанняў адносна па вызваленні астатніх 13 асоб, якія шырокая беларуская грамадскасць адносіць да вязняў сумлення.

### ПРЫЦІСНУЛІ ДА "СЦЯНЫ"

Пракаментаваць дадзеную сітуацыю **"Тут і цяпер"** папрасіла палітолага **Сяргея Нікалюка.**

— На мой погляд, усё складваецца дастаткова лагічна, — сказаў С.Нікалюк. — Недзе два тыдні назад Аляксандр Лукашэнка публічна паабяцаў выпусціць тых, "якіх Захад па нейкіх сваіх прычынах лічыць палітычнымі вязнямі" і якія падалі заяву на яго імя аб памілаванні.

*Заканчэнне на стар. 3*

**ДАРЭЧЫ**

**14 мая 2011 года Андрэй Саннікаў** быў асуджаны на 5 гадоў узмоцненага рэжыму за арганізацыю «масавых беспарадкаў» 19 снежня 2010 года

**26 красавіка 2011 года Дзмітрый Бандарэнка** быў прыгавораны да двух гадоў пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму за падзеі 19 снежня 2010 года.

**НАВІНА**

## УСА АПЫТАЛІ Ў ГЕНПРАКУРАТУРЫ

Экс-кандыдат у прэзідэнты Дзмітрый Ус 19 красавіка быў апытаны ў Генеральнай пракуратуры, паведамляе БелаПАН.

«Генпракуратура праводзіць праверку наконт цытаты з майго адкрытага звароту да вярхоўнага прадстаўніка ЕС па знешняй палітыцы і палітыцы бяспекі Кэтрын Эштан. У ёй гаворыцца аб неабходнасці прымянення эканамічных санкцый», — паведаміў Ус. Яго здзіўляе, як «можна зрабіць высновы аб звароце толькі па адной цытаце з яго».

«Я напісаў тлумачальную, што зварот быў накіраваны на эканамічныя санкцыі супраць беларускіх алігархаў, якія падтрымліваюць рэжым і якія кантралююць 44% нафтавага бюджэту краіны. Расказаў, што ў нас на 1 мільён скарацілася насельніцтва пасля прыходу да ўлады Лукашэнкі, у нас больш, чым у любой іншай краіне, сілавікоў, высокі алкагалізм, людзі масава з'язджаюць за мяжу жыць і працаваць», — сказаў Ус.

Акрамя таго, у Генпракуратуры цікавіліся, ці будзе Ус далей выступаць з падобнымі зваротамі. «Я сказаў, што буду гэта рабіць па меры неабходнасці, пакуль у нас не будзе зменены Выбарчы кодэкс, не будуць выпушчаны палітзняволеныя», — адзначыў былы кандыдат у прэзідэнты.

# ЗА ШТО МОЖНА ПАЗБАЎЛЯЦЬ БЕЛАРУСКАЕ ГРАМАДЗЯНСТВА?

**ВІКТАР ІВАШКЕВІЧ, ПАЛІТЫК:**

## “ГРАМАДЗЯНСТВА – ГЭТА НЕ НАЯЎНАСЦЬ ПАШПАРТА”.

— Яны могуць прыняць любы закон, напрыклад, каб сонца не свяціла. Ніякім здаровым сэнсам іх заканатворчая дзейнасць не тлумачыцца. Што ім узбрыдзе ў галаву, то яны і робяць. Справа ў тым, што нават у дэмакратычных краінах за розныя злачынствы пазбаўляюць на нейкі час грамадзянскіх правоў — напрыклад, не дазваляюць займаць кіруючыя пасады. Падчас люстрацыі былыя партыйныя начальнікі не мелі права займаць дзяржаўныя пасады. Розныя формы абмежавання грамадзянскіх правоў і сёння ўжываюцца ва ўсіх краінах. Ну а пазбаўляць грамадзянства... У Вялікім княстве Літоўскім асуджалі на выгнанне з краіны на пэўны час ці наогул назаўсёды. Ну а жыхары Беларусі ў пэўным сэнсе самі адмаўляюцца быць грамадзянамі, бо адмаўляюцца карыстацца сваімі правамі. У нас лічыцца, што ўсе — грамадзяне, але сапраўды грамадзянамі з'яўляецца меншая частка людзей, таму што яна добраахвотна адмаўляецца на карысць улад ад сваіх грамадзянскіх правоў. У гэтым сэнсе быць грамадзянінам — гэта не толькі прывілеі, але і абавязкі. Прычым абавязкі, якія вынікаюць з прывілей. Кожны грамадзянін мае права на свабоду слова, мітынгаў, шэсцяў. Аднак калі чалавек не ходзіць на сходы і не ўваходзіць ні ў якія асацыяцыі, то такім чынам ён адмаўляецца ад сваіх правоў.




*Залатыя словы*

**АДАМ ГЛОБУС, ЛІТАРАТАР:**

## “ДЛЯ ПІСЬМЕННІКА ПАЗБАЎЛЕННЕ ГРАМАДЗЯНСТВА — ГЭТА НАТУРАЛЬНА”.

— Так, як я пісьменнік і люблю літаратуру, то ведаю, што Дантэ пазбаўлялі грамадзянства, выганялі з горада. Салжаніцына пазбаўлялі грамадзянства, і для пісьменніка гэта натуральна. Вось для іншых гэта навіна, а для літаратараў, якія заўсёды крытыкавалі рэчаіснасць, гэта натуральна. Пісьменнікі заўсёды рызыкавалі. За заклікі да ўвядзення санкцый — абстрактна. Я слаба ўяўляю такі закон. А пазбаўленне грамадзянства — гэта натуральны працэс. Любая дзяржава прыгнятае чалавека, абмяжоўвае. Дзяржава, у прынцыпе, жорсткі апарат гвалту над асобай. Большасць жыве па законах большасці, і асоба ўвесь час прыгнятаецца. Дзяржава на гэтым пабудавана. Таму я не здзіўлюся, калі яны прыдумаюць форму пазбаўлення грамадзянства. Да таго ж людзі самі сябе пазбаўляюць грамадзянства, і мы глядзім на гэта спакойна, таму што для беларуса важнейшае іншае. Беларускасці ж нас не пазбавяць! Нас не пазбавяць Радзімы!

**ДА ВЕДАМА**

**“Тут і цяпер” стала вядома з крыніц, набліжаных да парламента, што ў хуткім часе апошні можа прыняць закон аб адказнасці за заклік да санкцый у дачыненні да Рэспублікі Беларусь. Гэтая адказнасць, вельмі верагодна, будзе ўключаць і пазбаўленна беларускага грамадзянства. Мы вырашылі даведацца ў грамадскіх дзеячоў палітыкаў, каго насамрэч можна і трэба пазбаўляць гэтага грамадзянства.**

**ВІКТАР МАРЦІНОВІЧ, ЖУРНАЛІСТ: “**

## ТРЭБА Ў КОЖНЫМ ДОМЕ ЎСТАЛЯВАЦЬ МІЕЛАФОН”.

— Я б тут адзначыў адну акалічнасць. Мне ўчора патэлефанаваў адзін знаёмы беларускі дэпутат і таксама расказаў мне пра гэта. Таму можна казаць пра тое, што ідзе мэтанакіраваная апрацоўка інфармацыйнага поля. Хіба не для таго, каб неяк зарэтушыраваць пазітыўны эфект з нагоды вызвалення Саннікава і Бандарэнкі? Хіба не для таго, каб зрабіць выгляд, што “мы працягваем быць крутымі, як яйкі, і нават найкруцейшымі”. А калі жартам, то мне здаецца, што беларускай Акадэміі навук трэба ўжо стварыць такую прыладу — міелафон, якая б ішла ў дадатак да кожнага тэлевізара “Гарызонт”, што прадаецца ў крэдыт. Міелафон павінен быць усталяваны ў кожным доме і выяўляць у рэжыме бягучага часу думкі беларусаў. І калі яны не будуць супадаць з “генеральнай лініяй”, то міелафон павінен выдаваць моцны сігнал і паведамляць у органы міграцыі і Пагранкамітэт аб тым, што гэты чалавек, па-першае, робіцца невыязным з Беларусі, а па-другое — пазбаўляецца беларускага грамадзянства. І калі гэтыя два фактары супадуць, то ўрэшце ўзнікне сітуацыя, калі чалавеку трэба будзе проста спыніць уласнае існаванне дзеля таго, каб выканаць загад дзяржавы.

**ВЕРАНІКА, СТУДЭНТКА:**

## “ГЭТА ВЕЛЬМІ ПРАВІЛЬНАЯ ІНІЦЫЯТЫВА”

— Гэта вельмі слушная ініцыятыва. Як вядома, Уладзімір Ленін адправіў нязгодную з бальшавікамі інтэлігенцыю на Захад на “філасофскім” параходзе. Думаю, для афіцыйнага Мінска хопіць аднаго “філасофскага” цягніка, каб выправіць усіх нязгодных і няправільных. Найперш усіх беларускамоўных, бо “неправільна разгаварывают”. Па-другое, усіх, хто чытае “Нашу Ніву” і “Дзеяслоў” — бо “засарают мазгі сібе і людзям”. Ну і чальцоў усіх дэмакратычных партый, бо “аддзеляют нас ад Расіі”. Астатнім можна будзе нарэшце расслабіцца. Атрымаць мільён, купіць у крэдыт “Саманд”, паглядзець па БТ “самава любімава чэлавека” і заліць вочы “Крыжачком” ад шчасця. Інтэрнэт можна будзе выключыць па ўсёй краіне па прычыне незапатрабаванасці.

**АПЫТАННЕ ПРАВЁЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

# ШТО СТАІЦЬ ЗА ВЫЗВАЛЕННЕМ "ПАЛІТЫЧНЫХ"

Усё ж калі-небудзь у гэтым годзе наш кіраўнік будзе звяртацца ў парламенце да беларускага народа. Навошта ж яму паўтарацца са сваімі абяцаннямі наконт "палітычных вязняў"? Акрамя таго, не буду арыгінальным сярод іншых беларускіх палітолагаў, калі скажу, што поле дзеянняў у Лукашэнкі надта звузілася. На працягу ўсяго тэрміну свайго знаходжання ва ўладзе ён рабіў стаўку на рост даходаў насельніцтва і, адпаведна, на так званую народную любоў, якая, як паказваюць апошнія даследаванні НІСЭПД, нявечная.

На думку Нікалюка, гэты рост дасягаўся за кошт расійскіх велізарных уліванняў у беларускую эканоміку, усемагчымых крэдытаў і распродажу той-сёй уласнасці.

Расія пасля прэзідэнцкіх выбараў пры "старым новым" Пуціне ў чарговы раз паказала свой сапраўдны твар (адзін толькі паветраны канфлікт чаго варты!) і больш не мае намеру проста так даваць грошы. Гэта асабліва бачна па праблемах з трэцім траншам крэдыту ЕўраЗЭС. Аказваецца, для таго каб яго атрымаць, трэба выконваць нейкія фармальнасці, пункты заключаных пагадненняў, а беларуская ўдала працаваць па такой схеме не прывыкла. І зноў еўрапейскія рэсурсы — як эканамічныя, так і палітычныя — апошняй вельмі спатрэбіліся.

Таму, лічыць Нікалюк, вызвалення іншых палітычных вязняў трэба чакаць у найбліжэйшы час, каб максімальна залагодзіць Еўрасаюз.



*Хутчэй бы палітычным "сядзельцам" развітацца з "калючкай"*

## ДА "СЦЯНЫ" ПАКУЛЬ НЕ ПРЫЦІСНУТЫ

Іншага меркавання прытрымліваецца палітолаг **Пётр Рудакоў**.

— Па маім цвёрдым перакананні, Лукашэнка будзе чакаць рэакцыі з боку вядучых еўрапейскіх структур на "першых вызваленых ластавак" і далейшыя крокі па вызваленні астатніх вязняў будзе рабіць, зыходзячы з гэтай рэакцыі, — гаворыць ён. — Але бліжэйшым часам, на вялікі жаль, глабальнага вызвалення "палітычных" мы не дачакаемся. Да "сцяны" наш лідар пакуль што не прыціснуты — у запасе ёсць тыя ж расійскія грошы, таму сваю лаяльнасць Еўропе ён пастараецца прадаць як мага даражэй.

Сімптаматычна, што сюжэт пра вызваленне Андрэя Саннікава быў больш па аб'ёме і часцей паўтарэнняў на "Еўраньюс", чым на расійскіх тэлеканалах. Апошнія аказаліся куды больш сціплымі за еўрапейскіх калег.

Думаецца, што ў справе вызвалення беларускіх палітычных вязняў Расія будзе гуляць сваю партыю, якая не надта суадносіцца з пазіцыяй не толькі беларускіх дэмакратычных сіл, але і нашых афіцыйных улад.

**ВІКТАР АЛЯШКЕВІЧ**

### МІЖ ІНШЫМ

Пасля вызвалення экс-кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава і каардынатара "Еўрапейскай Беларусі" Дзмітрыя Бандарэнкі ў Беларусі застаецца 13 палітвязняў.

**Ігар Аліневіч**, 211440, Віцебская вобл., г. Наваполацк, вул. Тэхнічная, 8, ПК № 10;

**Мікалай Аўтуховіч**, 230023, г. Гродна, вул. Кірава, 1, турма № 1.

**Алесь Бяляцкі,** выпраўленчая калонія № 2, 213 800, Магілёўская вобл., г. Бабруйск, вул. Сікорскага, 1;

**Яўген Васьковіч**, 212011, г. Магілёў, вул. Крупскай, 99 а, турма № 4;

**Зміцер Дашкевіч**, 211791, Віцебская вобл., г. Глыбокае, вул. Савецкая, 205, ПК № 13;

**Мікалай Дзядок**, 212013, г. Магілёў, Слаўгарадская шаша, 183, ПК № 15;

**Сяргей Каваленка**, Рэспубліканскі цэнтр псіхічнага здароўя ў Навінках;

**Эдуард Лобаў**, 225295, Брэсцкая вобл., г. Івацэвічы, «Воўчыя норы», а/с 20, ПК № 22;

**Арцём Пракапенка**, 213004, Магілёўская вобл., г. Шклоў, ПК № 17;

**Павел Севярынец**, 225143, Брэсцкая вобл., Пружанскі р-н, в. Куплін, ПУАТ-7;

**Мікола Статкевіч**, г. Магілёў, вул. Крупскай, 99а, турма № 4;

**Павал Сырамлотаў**, 213030, г. Магілёў, Слаўгарадская шаша, 3 км, ПК № 19;

**Аляксандр Францкевіч,** 225295, Брэсцкая вобл., г. Івацэвічы, «Воўчыя норы», а/с 20, ПК № 22.

# УЛАДНЫЯ "НОУ-ХАУ"

**Днямі намеснік старшыні Магілёўскага аблвыканкама сп. Малашка на адмысловай нарадзе абвясціў пра гатоўнасць мясцовай улады да дзелавых кантактаў і нават супрацы па пэўных пытаннях (у прыватнасці ў вырашэнні сацыяльных праблем) з недзяржаўнымі грамадскімі арганізацыямі.**

## ЯШЧЭ З САВЕЦКІХ ЧАСОЎ

Навіну шырока растыражавалі рэгіянальныя дзяржаўныя СМІ, аднак ніякага ўзрушэння ў тых самых недзяржаўных арганізацыях навіна не выклікала. Ніхто з іх прадстаўнікоў у пазначанай нарадзе не ўдзельнічаў, ніхто з іх не ўваходзіць і ў так званы Савет грамадскіх арганізацый пры аблвыканкаме, дзе тон задаюць "Белая Русь", Савет федэрацыі прафсаюзаў, БРСМ, Савет ветэранаў і іншыя праўладныя арганізацыі, якія практычна не зведалі змен у стылі і ідэалогіі працы з савецкіх часоў.

Сёння, менш як праз тыдзень пасля смелай заявы сп. Малашкі, многія з грамадскіх актывістаў тоўпіліся на прыступках і ў калідоры суда Ленінскага раёна Магілёва, дзе практычна адначасова праходзілі адміністратыўныя суды менавіта над іх паплечнікамі. Цікавая ілюстрацыя да намераў аблвыканкама аб супрацы, ці не так?

Судоў было тры: свае звальненні абскарджвалі вядомыя ў горадзе актывісты недзяржаўных прафсаюзаў (РЭП і Свабодны прафсаюз) Аляксей Паўлоўскі і Мікалай Расюк. Трэцім па ліку судзілі грамадскага распаўсюджвальніка недзяржаўнай прэсы і актывіста грамадскага руху БНФ Сяргея Нігаціна. Аляксею Паўлоўскаму ўдалося абвергнуць прычыну свайго звальнення, усклаўшы за гэта віну (што і ёсць праўдай) на адміністрацыю будаўнічай арганізацыі "Прамжылбуд", скасаваўшы з яе 12 мільёнаў рублёў на пакрыццё вымушанага прагулу.

*Заканчэнне на стар. 5*

# КАЛІ ІМІДЖ СТАНОВІЦЦА

За ўсе гады, што А.Лукашэнка знаходзіцца на пасадзе кіраўніка дзяржавы, аб'яўленую дату штогадовага паслання да беларускага народа і парламента ніколі не адмянялі.

Маглі толькі выступ перанесці па часе – напрыклад, з 10 гадзін на 12. Але такога, каб увогуле адкласці, да яшчэ на нявызначаны тэрмін – не было.

**З-за чаго Лукашэнка вырашыў адкласці пасланне? Як гэта можа быць звязана з маючымі адбыцца парламенцкімі выбарамі? І што б сказалі беларускія палітыкі, калі б у іх была магчымасць з'явіцца ў Палаце прадстаўнікоў замест Лукашэнкі?**

На гэтыя і іншыя пытанні шукала адказы **"Тут і цяпер"**.

## АФІЦЫЙНА

**Як паведаміў кіраўнік яго прэс-службы Павел Лёгкі, Лукашэнка адхіліў праект Паслання, падрыхтаваны дзяржаўнымі органамі, і адправіў яго на дапрацоўку.**

Як вынікае з паведамлення інформагенцтваў, кіраўнік дзяржавы даручыў перапрацаваць шэраг палажэнняў Паслання, якія тычацца, у прыватнасці, пытанняў прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці, а таксама замежнапалітычнага курсу краіны. І запатрабаваў улічыць ў праекце Паслання шэраг прынцыповых момантаў: "недапушчальнасці залішне ліберальнага падыходу пры продажы дзяржаўнай уласнасці, катэгарычнай непрымальнасці гэтак званай беспадстаўнай прыватызацыі, а таксама абавязковай і ўсёабдымнай абароны інтарэсаў простых работнікаў і ўсіх шараговых грамадзян Беларусі ў ходзе магчымай прыватызацыі прадпрыемстваў.

У частцы, якая тычыцца замежнапалітычных падыходаў, Лукашэнка выказаўся супраць залішне жорсткіх мер рэагавання на праблемы, якія ўзнікаюць ва ўзаемаадносінах Беларусі са сваімі партнёрамі".




*Упершыню за гады прэзідэнцтва АГЛ прагучала падобнае "не буду"*

## АСЦЯРОЖНЫ НАМЁК НА МАГЧЫМАСЦЬ РЭФОРМ

Адзіны кандыдат ад апазіцыі на прэзідэнцкіх выбарах у Беларусі ў 2001 годзе **Уладзімір Ганчарык лічыць**, што Лукашэнка выдатнае разумее: вызваленне Андрэя Саннікава і Зміцера Бандарэнкі недастаткова для нармалізацыі адносін з Еўропай. Падчас штогадовага звароту да народу прэзідэнт павінен гаварыць аб рэформах. Прычым – глабальных.

*«Калі звярнулі ўвагу, то ў нядаўняй размове з прадстаўнікамі кітайскіх СМІ, Лукашэнка зрабіў такі, я б сказаў, асцярожны намёк на магчымасць палітычных рэформ.* – дзеліцца думкамі Уладзімір Іванавіч. – *На мой погляд, ён пачынае разумець, асабліва на фоне працэсаў, якія адбываюцца ў Расіі, што ў Беларусі не проста наспелі, а ўжо пераспелі эканамічныя і палітычныя рэформы! Думаю, менавіта гэты момант не ўлавілі яго падначаленыя. Гэта тычыцца прыватызацыі, уключаючы пэўны беларускі капітал, ну і палітычнай рэформы, перш за ўсё – рэфармавання выбарчай сістэмы. У гэтым, як мне здаецца, сэнс яго ўчынку з пераносам паслання.*

*Калі б у мяне была магчымасць звярнуцца да народа, я б дакладна казаў пра неабходнасць рэформ. Гэта, на мой погляд, самае важнае.*

*Дарэчы, думаю, што Лукашэнка, валодаючы уладай, можа выпусціць шанец правесці гэтыя рэформы. А калі б яны пачаліся пры яго прэзідэнцтве і з яго падачы (гаворка і аб абмежаванні прэзідэнцкага тэрміну, і аб павелічэнні кантрольнай функцыі парламента, аб эканамічных пераўтварэннях), то ён бы шмат у чым палепшыў свой імідж і працягнуў сваё палітычныя даўгалецце ».*

## ХТО БУДЗЕ ПІЛАВАЦЬ ЎЛАСНАСЦЬ?

Калі меркаваць па словах Паўла Лёгкага, то ў праекце паслання Лукашэнка звярнуў увагу сваіх спічрайтэраў перш за ўсё на два важныя моманты – прыватызацыю дзяржаўнай уласнасці, а таксама знешнепалітычны курс краіны.

Чаму менавіта прыватызацыя дзяржуласнасці сёння выходзіць на першы план?

*«Аляксандру Рыгоравічу амаль 58 гадоў, ён прыйшоў у прэзідэнты са сваім атрадам 40-гадовых мужчын. Зараз усе яны ўжо падыходзяць да пенсійнага ўзросту. І сысці, пакінуўшы ўласнасць камусьці, – гэта глупства,* - разважае кіраўнік аналітычнага цэнтра «Стратэгія» **Леанід Заіка**. – *Таму ціск вакол Лукашэнкі з нагоды прыватызацыі – павальнай, масавай – нарастае. Але дзякуючы незалежнай прэсе і пэўным навукоўцам, быў выказаны пункт гледжання, што ўсе прэзідэнцтва Аляксандра Рыгоравіча сыйдзе на нішто, калі ён будзе гандляваць Беларусю і аддасць ўласнасць наменклатуры. Яго імя стане намінальным – як імя таго ж Чубайса, напрыклад. Таму, на мой погляд, Лукашэнка нарэшце стаў прыслухоўвацца да меркавання грамадства, той жа незалежнай прэсы.*

*Мы кажам пра тое, што надыходзіць перыяд усеагульнага распродажу Беларусі. Невыключаны паўтор украінскага і расійскага наменклатурнага падзелу ўласнасці. Гэта нават не прыватызацыя. Проста можна перапісаць ўласнасць на сябе. Таму Лукашэнка ўлічыў усе гэтыя меркаванні і шухнуў сваіх спічрайтэрў, каб яшчэ раз мелі на ўвазе – беларускі прэзідэнт нічога і нікому раздаваць не будзе".*

У афіцыйным каментары для прэсы з нагоды пераносу паслання гаворыцца аб "абавязковай і ўсеабдымнай абароне інтарэсаў простых работнікаў і ўсіх шараговых грамадзян Беларусі ў ходзе магчымай прыватызацыі прадпрыемстваў".

*«Гэта проста казённая фраза,* – лічыць Заіка. – *Яе вымаўлялі ўсё "прыхватызатары". Народ жа трымае вушы востра і разумее, што зараз пачнуць пілаваць ўласнасць. Лукашэнка на гэтую трывогу адказвае: маўляў, трэба ўлічыць інтарэсы простых грамадзян. Між іншым, яго выбаршчыкаў».*

А наогул, як лічыць прафесар эканомікі, самае галоўнае для Лукашэнкі – гэта ці будзе з ім у бліжэйшы час сустракацца прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуці,н і як выбудуюцца іх адносіны: «Але другое пытанне на парадку дня не менш галоўнае – як акуратна падзяліць ўласнасць так, каб усе падумалі, што гэта добра».

## У ЧАКАННІ ПАРЛАМЕНЦКІХ ВЫБАРАЎ

Былы намеснік старшыні Руха "За свободу!" **Віктар Карняенка** адносіцца да тых палітыкаў, якія ва ўсім вінавацяць толькі кіраўніка дзяржавы. І калі б у Карняенкі была

# ЎСІМ


Пауза. Зусім на "ха-ха" тры разы

магчымасць звярнуцца да шырокай грамадскасці, то ён абавязкова заўважыў бы: ад выбару кожнага беларуса залежыць сацыяльна-эканмічны стан краіны.

*"Для паслання зараз насамрэч не самы добры час – гэта відавочна,* – гаворыць Каряненка. – *Ёсць канфлікт з Еўропай, тэрмінова шукаюць вінаватых у крызісе, ініцыятараў санкцый. Хаця ініцыятар, на маю думку, добра вядомы… Магчыма, Лукашэнка вырашыў пачакаць і знайсці больш падыходзячы момант для таго, каб звярнуцца да людзей. Але, як мне здаецца, проста чакаць і нічога не рабіць – гэта ж нічога не дасць…*

*Калі б у мяне была мажлівасць выступіць з пасланнем да народа, я б сказаў, што вінаваты ва ўсіх праблемах нашай краіны адзін чалавек, які зрабіў закладнікам усю краіну, і яго палітыка зарыентаваная толькі на тое, каб ён і купка яго атачэння навечна заставаліся пры ўладзе. І пакуль мы не зменім вось гэты лад, у нас будуць цяжкасці і канфлікты не толькі з Захадам, але і з Усходам. Сутнасць дыктатуры іншай быць не можа – ёй патрэбныя унутраныя і знешнія ворагі. Я хацеў бы пераканаць людзей, што маючыя адбыцца парламенцкія выбары вельмі важныя. Хай сабе ад парламента і не шмат што залежыць, але я хацеў бы, каб большасць беларусаў зразумела: ад выбараў, у тым ліку і парламенцкіх, залежыць іх сацыяльна-эканамічны стан, прычым вельмі істотна".*

## ГЭТА ПРОСТА ТАЙМ-АУТ

*"Калі цяпер выступаць з пасланнем, то трэба закранаць тэму палітзняволеных, якая аўтаматычна вывядзе на тэму адносін з Еўропай,* – выказвае сваё меркаванне звычайны менеджар **Святлана Бялхлоб**. – *А што казаць, калі яшчэ не ўсе на волі, калі той жа Саннікаў абмежаваны ў правах, калі невядома, як будуць развівацца адносіны з Еўропай. Думаю, гэта проста тайм-аут. Час на роздум. Каб не памыліцца. Тым больш, на верасень прызначаны парламенцкія выбары і Лукашэнка зацікаўлены, каб іх прызнала міжнародная грамадскасць…"*

**МАРЫНА МІТ**

**ДАРЭЧЫ**

Магчыма, што за адкладзеным пасланнем стаяць і закулісныя гульні. Быў час, калі без візы былой прэс-сакратаркі Лукашэнкі Наталлі Пяткевіч ніводная паперчына не выходзіла у свет. Наталля Уладзіміраўна перачытвала і правіла многія прынцыповыя тэксты. Ці мела першы памочнік кіраўніка дзяржавы адносіны да праекта цяперашняга паслання, сказаць цяжка. Але дакладна, што тэкст паслання не мог прайсці па-за кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Уладзіміра Макея. Таму адкладзенае пасланне – гэта яшчэ і ківок у бок працы таго ж Макея, які апошнім часам стаў даволі часта з'яўляцца ў сродках масавай інфармацыі і "разжоўваць" палітыку ўлады.

Між іншым, да нядаўняга часу Уладзімір Макей заўсёды знаходзіўся ў цені і не высоўваўся на публіку. Некаторыя былыя высокія чыноўнікі распавядалі, што з нагоды з'яўлення нейкага свайго інтэрв'ю ў прэсе маглі атрымаць праз Макея "прывітанне" ад Лукашэнкі. А цяпер сам Макей ужо двойчы за красавік красаваўся перад тэлекамерамі. Хутчэй за ўсё, ён проста выконвае загад кіраўніка дзяржавы і прамаўляе тое, што хацеў бы агучыць сам Лукашэнка. У крайнім выпадку, на таго ж Макея і спішуць "недальнабачную палітыку", а сам Лукашэнка зробіць выгляд, быццам бы ён выступае за лённы дыялог з Еўропай.

Не выключана, што бліжэйшым часам кіраваць Адміністрацыяй прэзідэнта прызначаць іншага чалавека…

# УЛАДНЫЯ "НОУ-ХАУ"

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 3*

На аднаўленне на працы гэта, аднак, не паўплывала. Суд над Мікалаем Расюком, які таксама абскарджвае прычыну свайго звальнення з будаўнічай фірмы "Інвестсістэм", перанесены на больш позні перыяд, калі і адказчык, і ісцец збяруць у падтрымку сваіх пазіцый больш дакладныя матэрыялы. Аднак, па меркаванні Мікалая Расюка і яго прадстаўніка Юрыя Новікава, прысуд можна лёгка прадказаць — магчыма, што прычына звальнення будзе зменена на больш сумленную (цяпер лічыцца, што Мікалай Расюк звольніўся па сваёй просьбе, але заяву аб гэтым ён нікому не падаваў), але на працу адноўлены не будзе ўжо толькі таму, што "Інвестсістэм" перастала існаваць. А той арганізацыі — упраўленню будаўніцтва гарвыканкама — "будаўнікі-электрыкі не патрэбны", як паведамілі адтуль Мікалаю Расюку. Гэта няважна, што чалавеку засталося ўсяго 3 гады да пенсіі і што такіх электрыкаў яшчэ пашукаць трэба, — тут важна якраз тое (і гэта добра разумее грамадскі сектар Магілёва), што сп. Расюк вядомы ў горадзе як актыўны абаронца правоў рабочых, у тым ліку сацыяльных правоў, пра якія якраз і ішла гаворка на тым аблвыканкамаўскім пасяджэнні. Трэці падсудны, Сяргей Нігацін, атрымаў 3 млн штрафу за адсутнасць пры ім дамовы на распаўсюджванне друкаванай прадукцыі ад рэдакцый тых самых недзяржаўных газет, якія, дарэчы і самі незарэгістраваны (што законам дазволена). Каму ж, як не суддзі, пра гэта не ведаць?!

## НЕ ПАКІДАЮЦЬ НАДЗЕІ

І ўсё ж такі грамадскія лідары Магілёва не пакідаюць надзеі на змену палітыкі ў адносінах да іх з боку мясцовай улады пры тым, што і не надта ў гэта вераць. Вось некалькі выказванняў на гэты конт.

**АЛЯКСАНДР СІЛКОЎ, РУХ "ЗА СВАБОДУ":**

— Хочацца верыць у добрыя намеры ўлады, тым больш што досыць нармальныя дзелавыя адносіны з ёю ў нас былі да 19 снежня 2010 года. Потым усё змянілася: у гарвыканкам, які да нас бліжэйшы, чым аблвыканкам, нас перасталі нават пускаць. А да таго мы мелі з горадам супольныя праграмы па ўратаванні нашых "хрушчовак", што знаходзяцца ў занядбаным стане. Нам удалося прыцягнуць да вырашэння гэтых праблем замежныя інвестыцыі, іх дапамогу ў тэхналагічным і праектным плане. Цяпер усё спынілася, і зусім не па нашай віне. Не пакідаем мы і сваю ініцыятыву па стварэнні ў Магілёве грамадскага магістрата як праваобраза будучых свабодных выбараў і самакіравання. Аднак не ад нас залежыць, ці будзе што рэалізавана на ўзроўні ўлад. Хочацца верыць, што прыхільныя словы на адрас грамадскіх ініцыятыў і пазадзяржаўных арганізацый сп. Малашка сказаў не проста так.

**ІГАР БАРЫСАЎ, ЛІДАР АБЛАСНОЙ АРГАНІЗАЦЫІ БСДП (ГРАМАДА):**

— Калі яны сапраўды зацікаўлены ў кантактах з грамадскасцю, то няхай бы і запрасілі на якое адпаведнае пасяджэнне. Шчыра кажучы, гэтая грамадскасць ужо 18 год спрабуе ісці на кантакт, а яе ўпарта ігнаруюць. Ды нават і знішчаюць, бо з пачатку 90-х у нас мо больш як напалову зменшылася колькасць розных ініцыятыў і арганізацый. Сёння ў рэгіёне крыху больш за 120 розных суполак, у асноўным непалітычных. Большасць з іх нефармальныя, незарэгістраваныя, бо прайсці гэтую працэдуру ў нас, як вядома, складана. А вось для таго, каб прычапіцца да чаго-небудзь, уладзе дастаткова і адной хвіліны. Тут вам і міліцыя, і суды, а цяпер, як чуем, і "працоўныя калектывы" неўзабаве паставяць на месца гэтых недазволеных актывістаў. Я ў намер улады пакуль што не веру, аднак хацелася б, паколькі, паверце, калі ён будзе сапраўды шчырым, уся наша супольнасць адгукнецца на яго.

**ВІКТАР ВОЙТ**

# ПАКУПНІК ЗАЎСЁДЫ...

**У Беларусі абаронцы правоў спажыўцоў яшчэ доўга без працы не застануцца — колькасць зваротаў да іх штогод стабільна расце.**

Так, летась падтрымка Беларускага таварыства абароны спажыўцоў (БТАС) дапамагла 26 335 беларусам, у 2010 годзе такіх было 18 870 чалавек, у 2009 — больш як 15 тысяч. Колькасць пададзеных іскаў за год павялічылася амаль удвая — да 786 (з 379 у 2010 годзе), кампенсацыя матэрыяльнага і маральнага ўрону перавысіла 3,35 млрд рублёў (летась — 3,19 млрд рублёў).

Якімі таварамі і паслугамі найчасцей незадаволены суграмадзяне і ці многія з іх адстойваюць свае правы, высвятляла **"Тут і цяпер"**.

## НА ШТО СКАРДЗІЦЕСЯ?

Паводле статыстыкі, штогод на няякасных таварах і паслугах кожны беларус страчвае каля 1 мільёна рублёў.

Летась лідарамі "хіт-парада" скаргаў былі інтэрнэт-крамы, ЖЭСы і разнастайныя рамонтныя майстэрні. Сёлета ў спіс дабавіліся вытворцы мэблі (кухоннай, шафаў-купэ), а таксама пластыкавых вокнаў. Ніяк не завучаць формулу "спажывец заўсёды мае рацыю" прадаўцы ў большасці крам, дзе адмаўляюцца выдаваць кнігу скаргаў і прапаноў (абавязаны па першым патрабаванні, а калі гэтага не адбылося, можна смела выклікаць міліцыю. — Рэд.). Увогуле, стала менш іскаў, якія тычацца няякасных тавараў, і больш тых, якія тычацца няякасных паслуг.

"Два тыдні назад у мяне "паляцеў" халадзільнік, — дзеліцца маладая маці Ірына Шмялёва. — Гарантыйны тэрмін ужо мінуў, таму вырашылі звярнуцца не на завод-вытворац, а ў прыватную рамонтную майстэрню. Прыехаў майстар, паглядзеў матор, яшчэ нешта, запампаваў у выніку фрэон і запэўніў, што тэхніка будзе працаваць як новенькая. Мы аддалі больш за 400 тысяч рублёў, атрымалі гарантыйную распіску і са спакойнай душой падключылі халадзільнік. Не мінула і сутак, як ён "бахнуў", ледзь ці не ўсю заднюю сценку раскурочыла, і фрэон выцек. Зноў выклікалі майстра, які заявіў, што такога не можа быць, маўляў, мы штосьці няправільна падключылі. Я прыгразіла экспертызай, а то і судовай справай. Толькі тады фірма заварушылася, прыехаў яшчэ адзін майстар і выдаў, што трэба будзе даплаціць за новы рамонт. Кажу: "Не буду нічога плаціць, вы далі гарантыю, рамантуйце!" Дык яны праз два дні прыехалі зноў, прывезлі нам халадзільнік на замену — амаль такі ж самы, як быццам нейкая кліентка яго не пажадала выкупіць. Я так зразумела, што справа там насамрэч цёмная. Карацей, у выніку дамовіліся, каб яны нам пакінулі назаўсёды гэты "падменены" халадзільнік, але без гарантыйнага талона, а мы не даплачвалі б ні рубля. Магчыма, варта было пайсці на прынцып і даведацца, што ж не так з падменай і рамонтам, але халадзільнік нам, з дваімі дзецьмі, быў патрэбен тэрмінова, а лішніх грошай на экспертызу ці новую тэхніку няма".



*Патрабаваць мала*

"Гісторый пра "чэсных" прадаўцоў я магу расказаць не адзін дзясятак, — смяецца мінчанка Кацярына Сяргеева. — Прыкладам, набывала неяк тэлефон у інтэрнэт-краме. Кур'ер прывёз заказаную мадэль, усё нармальна, акрамя гарантыйнага талона — яго няма. Цікаўлюся: "А дзе?" Хлопец зрабіў абураны выгляд: "Вы што, мне не верыце?!" — "Не, — кажу, — я ж вас першы раз у жыцці бачу, мо і апошні". Так пакрыўдзіўся... Пры ім тэлефанавала зноў у магазін, каб далі талон. Тады ўжо стаў ідэальна ветлівы. Увогуле, я альбо неяк адразу бачу, калі мяне спрабуюць "развесці" — тады паварочваюся і сыходжу, альбо толькі дома заўважаю, што падсунулі дрэнь. У другім выпадку, калі адразу не заўважыла, а грошы невялікія і пытанне не прынцыповае, ваявацьне іду — шмат часу і нерваў гэта забярэ. Толькі раблю сабе зарубку на памяць, куды больш ні нагой альбо дзе па тры разы трэба чэкі правяраць, пра тэрміны годнасці тавараў чытаць і г.д.".

Праваабаронцы спажыўцоў заўважаюць, што такой мадэлі паводзін прытрымліваецца абсалютная большасць беларусаў, а ісці да канца і адстойваць свае правы гатовы хіба што 10% падманутых і пакрыўджаных спажыўцоў. Славутая наша "талерантнасць" у дадзеным выпадку заключаецца ў тым, каб, выявіўшы падман, аблаяць (і то не ўголас) нядобрасумленнага прадаўца, прадпрымальніка ці выканаўца работ, махнуць рукой і пайсці далей.

## ВУЧЫЦЕ МАТЧАСТКУ

Амаль што хрэстаматыйная гісторыя здарылася са студэнткай Марынай Навумовіч: "Пазалетась мяняла баціл'ёны (стыльны жаночы абутак) — набыла на кірмашы, а праз два дні швы на пятцы разышліся. Прывезла здаваць, прадавец кажа: "Давайце адрамантуем". Я не згадзілася: "А мо там усе ніткі гнілыя?! Нічога потым не дакажу, вяртайце грошы". Прадавец пагадзіўся, але толькі праз два тыдні — маўляў, маю права здаць боты на экспертызу. Здаваць насамрэч не буду, але вы прыходзьце праз два тыдні. Знайшла адміністратара, які пацвердзіў: так, на жаль, прадавец мае права. Давялося зноў ехаць. Што ж зробіш?..".

Скаргі на няякасны абутак (і не больш якасны яго рамонт) — адны з самых распаўсюджаных сярод зваротаў спажыўцоў. Мы зладзілі невялікі эксперымент: запыталіся ў 20 чалавек (ад 18 да 50 гадоў), што яны ведаюць пра гарантыйны тэрмін на абутак і пра тое, як хутка прадавец абавязаны вярнуць пакупніку грошы за няякасную рэч. Вынік непрыемна ўразіў. Толькі палова апытаных памятаюць, што гарантыйны тэрмін на розныя віды абутку розны: на паўсядзённы і мадэльны — 30 дзён, спартыўны — 60, дзіцячы — ад 45 да 60. Пры гэтым, згодна з Законам "Аб абароне правоў спажыўцоў", прадавец не мае права скарачаць гарантыйны тэрмін. Гарантыя на зімовы абутак адлічваецца з 15 лістапада, на вясенні — з 1 сакавіка, летні — з 1 мая, восеньскі — з 15 верасня.

Толькі 5 апытаных ведаюць, што ў выпадку, калі няякасны абутак мае вытворчы дэфект, скасаваць дамову

# ЛОХ?

куплі-продажу можна цягам 2 гадоў з моманту пакупкі, а не толькі цягам гарантыйнага тэрміну. Але найчасцей прадавец адразае: усё, гарантыйны тэрмін скончыўся, прэтэнзіі не да мяне — і яму верацъ!

Нарэшце, усяго 3 чалавекі ведаюць, што грошы за няякасны тавар прадавец абавязаны вярнуць або адразу (максімальна праз 7 дзён), або праз 14 (пры правядзенні экспертызы, але ў такім выпадку ён абавязаны пісьмова паведаміць спажыўцу аб месцы і часе правядзення экспертызы).

"Пры набыцці абутку — асабліва дзесьці ў пераходах, кіёсках, прыватных крамах і павільёнах на рынку — пакупніку трэба быць асабліва ўважлівым, — падкрэслівае старшыня праўлення Мінскай гарадской арганізацыі абароны спажыўцоў ГА БТАС Васіль Парынаў. — Адразу дазнавайцеся, чыёй вытворчасці гэты абутак, хто яго ў Беларусь прывёз, якая на яго гарантыя і г.д. Прадавец абавязаны прадаставіць усю неабходную інфармацыю. Бо бывае, чалавек купляе як быццам в'етнамскі абутак, а ўнізе, пад язычком ботаў, стаіць штампік "выраблена ў Кітаі".

## ЗАКОН НЕ ДЫШАЛЬ

Неўзабаве, падчас вясновай сесіі, парламентары разгледзяць змены ў спажывецкім заканадаўстве. У прыватнасці, грамадскія аб'яднанні спажыўцоў будуць працаваць з апошнімі выключна на бязвыплатнай аснове, затое змогуць кампенсаваць свае выдаткі за кошт боку, вінаватага ў парушэнні правоў спажыўцоў. Акрамя таго, прапаноўваецца добраахвотная атэстацыя супрацоўнікаў такіх аб'яднанняў як метад павышэння попыту на паслугі канкрэтных спецыялістаў.

Дарэчы, на сёння толькі ў сталіцы, паводле звестак Мінгарвыканкама, адстойваць правы спажыўцам дапамагаюць 13 грамадскіх аб'яднанняў.

> "Бо бывае, чалавек купляе як быццам в'етнамскі абутак, а ўнізе, пад язычком ботаў, стаіць штампік "выраблена ў Кітаі".

Але значная частка праблем спажыўцоў, не перастаюць паўтарацъ спецыялісты, можа быць вырашана самімі ж спажыўцамі. Бо распаўсюджаных скаргаў — на пратэрмінаваныя тавары, абвжаванне і "памылкі ў чэку" на карысць прадаўца — можа істотна паменець, калі пакупнікі праявяць крыху больш пільнасці і ўважлівасці, не забываючыся чытаць этыкеткі, правяраць суму ў чэку адразу на касе, патрабаваць сертыфікаты якасці і г.д.

— Але нельга перакладваць усё гэта толькі на спажыўца, — мяркуе Васіль Парынаў. — Уважлівасць і дасведчанасць у першую чаргу прадаўца ўплывае на колькасць вяртанняў, прэтэнзій да няякаснага тавару і г.д. У нас жа часам спытаешся ў краме: "З чаго гэтая каўбаса?" — прадавец адказвае: "А я ведаю?". Як жа не ведаеш, калі на ўпакоўцы яе састаў прапісаны? І ўсю інфармацыю аб складзе, вытворцы, даце вырабу, тэрмінах захоўвання прадукту трэба давесці да спажыўца. Магчыма, часам лепш адразу папярэдзіць, што ў нейкага харчовага прадукту спецыфічны пах ці выгляд, але ён не пратэрмінаваны...

З іншага боку, разважае эксперт, і самім прадаўцам і вытворцам часта патрэбна абарона ад пакупнікоў-экстрэмістаў. Так, спажывецкі экстрэмізм у Беларусі ўжо існуе, і гэта не адзінкавыя выпадкі, а цэлая з'ява. "Прыкладам, адна жанчына два гады насіла туфлі, а потым іх мяняла, непрыкметна "арганізоўваючы" дэфект абцасаў ці падэшвы, і гэта паўтаралася некалькі разоў, пакуль не пачалі разбірацца дэталёва. Другая набыла дзіцячыя чаравічкі, а праз 3 тыдні прынесла мяняць. Толькі не іх, а зусім іншы па мадэлі, фасоне і нават колеры абутак. Сцвярджала: у мяне і чэк ёсць, у вас набыла; вярніце грошы! Але не заўважыла, што ў чэку прабіты зусім іншы артыкул абутку... Раней такія выпадкі здараліся з тэлевізарамі, але цяпер тут махлярыць стала цяжэй, бо пакуль не будзе тры і больш гарантыйных рамонтаў і заключэння майстэрні, што тэхніка непрыдатная для далейшай эксплуатацыі, яе не абмяняюць. Затое ўсё часцей экстрэмізм закранае харчовыя тавары. Скажам, набыў чалавек 10 пачкаў марожанага, 2 з'еў, а потым нібыта атруціўся, прыходзіць і прапаноўвае загадчыку крамы, каб не падымаць шум, заплаціць яму за нанесены ўрон. І многія на гэта згаджаюцца".

На дадзены момант каля 10–15 % спажыўцоў у Беларусі можна аднесці да спажыўцоў-экстрэмістаў. А метад барацьбы з імі, на думку эксперта, усё той жа — павышэнне спажывецкай граматнасці і культуры з абодвух бакоў. Усё ж Зямля круглая: сёння падманеш ты — заўтра падмануць цябе...

**ВІКТОРЫЯ ПРАКАПОВІЧ**



*Спажыўцы часта ўпадаюць у ступар*

**МІЖ ІНШЫМ**

**3 2000 года ў Беларусі заснаваны Дзень правоў спажыўцоў — 15 сакавіка. Сёлета ён прайшоў пад заклікам "Нашы грошы — нашы правы".**

# 350 МІЛЬЁНАЎ РУБЛЁЎ НА ... ЭЛЕКТРОННЫ АРХІЎ

"Я нават не ведаю, што вам пра яго расказаць. Афіцыйна яго... У нас нават не электронны архіў".

Па звестках Камітэта дзяржаўнага кантролю у 2009-2011 гадах на стварэнне электроннага архіву Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва атрымала з інавацыйнага (!) фонду 350 мільёнаў рублёў. Па курсе таго часу – 117 тысяч долараў! Гэта каля 40 тысяч долараў у год і больш за тры тысячы ў месяц. Еўрарадыё даведалася шмат цікавага пра эфект ад інавацыі

"Ну, ён на самой справе яшчэ ў стадыі распрацоўкі. Распрацоўкі, пераробкі, апрабацыі. Таму асабліва гаварыць няма пра што", – прызнаюць у Міністэрстве архітэктуры.

І намякаюць, што афіцыйна электроннага архіву ў міністэрстве… няма!

"Я нават не ведаю, што вам пра яго расказаць. Афіцыйна яго... У нас нават не электронны архіў, а дакументы, якія захоўваюцца ў электронным выглядзе. Гэта не электронныя дакументы. Вось, у нас ёсць сістэма электроннага справаводства. І дакументы з яе праз некаторы час трапляюць у электронны архіў".

А таму што ў міністэрстве лічаць, што краіна да электронных архіваў яшчэ нават не дарасла. Затое грошы на інавацыі не лічаць.

"Разумееце, у нас яшчэ краіна не дарасла да поўнага пераходу на электронныя архівы. У нас яшчэ нават толкам і электронных дакументаў няма. Толькі дакументы, якія захоўваюцца ў электронным выглядзе. Гэта розныя рэчы".

**АЛЕСЬ ПІЛЕЦКІ**

# ЯК МІЛІЦЫЯНТКА “ПАЙШЛА Ў РАЗНАБОЙ” З ПРЭЗІДЭНТАМ

**Нядаўна ў круглянскай раённай газеце “Сельскае жыццё” (Магілёўская вобласць) інспектар крымінальна-выпраўленчага аддзела маёр міліцыі Таццяна Падаляк катэгарычна выказалася супраць датэрміновага вызвалення.**




*Магчымасць выйсці на волю ў законе прадугледжаная амаль для кожнага*

## СУПЕРСУРОВАЯ ЗАЯВА

“Я твёрдо уверена в том, что человек, нарушивший закон, причинивший людям боль, горе, обиды, должен быть изолирован от общества на срок, установленный Уголовным кодексом, без всяких шансов на досрочное освобождение», — заявіла праз раённае выданне “пераможца па прафесіі” за 2011 год, якая працуе ў выпраўленчым падраздзяленні.

І тут падаецца не самым істотным, што такая суровая заява маёра відавочна супярэчыць таму ж Крымінальнаму кодексу, Канстытуцыі, многім законам, ужо не гаворачы пра сусветную практыку ў гэтай далікатнай і надта няпростай сферы. Справа ў тым, што яе галоўны начальнік — прэзідэнт краіны — ужо неаднойчы прадастаўляў пэўным вязням датэрміновае вызваленне і нават (страшна прамовіць) памілаванне. Зусім нядаўна на волю выйшлі былы кандыдат у прэзідэнты Андрэй Саннікаў і яго даераная асоба падчас мінулых прэзідэнцкіх выбараў Зміцер Бандарэнка. Выйшлі пасля таго, як напісалі неабходныя паперы на імя Аляксандра Лукашэнкі. Хоць тут, як справядліва лічаць многія аглядальнікі, значную ролю адыгралі як міжнародны націск, так і націск унутры краіны. Але ў выпадку з выслужлівым маёрам гэта, пэўна, не самае важнае.

## ВЯРТАЕМСЯ ДА КАРНЫХ ОРГАНАЎ?

**Аляксей Колчын, магілёўскі каардынатар праваабарончага цэнтра”Вясна”:**

— Цалкам абсурдная пазіцыя. Варта нагадаць, што юрыспрудэнцыя як такая базіруецца на наступным прынцыпе: у пакаранні важна не жорсткасць, а непазбежнасць. А ў чалавека за кратамі якраз і павінен быць час не толькі на асэнсаванне ўчыненага, але і на тое, каб, асэнсаваўшы, выправіцца, спадзяючыся, што гэта будзе залічана і адзначана магчымасцю таго самага датэрміновага вызвалення. Іначай будзе не правасуддзе, а помста, чаго ў ніякім разе немагчыма дапускаць.

Такое было ў часы сталінскіх рэпрэсій, калі практычна ў адных руках — у карных органаў — знаходзіліся следства, суд і ўтрыманне людзей за кратамі. Не хацелася б думаць, што менавіта пра вяртанне такіх часоў мараць некаторыя з нашых праваахоўнікаў.

**Барыс Бухель, старшыня праўлення Магілёўскага праваабарончага цэнтра:**

— Гэтае выказванне міліцэйскай асобы — жахлівы ўзор савецкага мыслення, якое нанесла вялікую шкоду чалавечай маралі і сумленню і, як бачым, нікуды не дзелася. Асабліва насцярожвае тое, што такія думкі выказвае афіцыйная асоба. Як гаворыцца, дай такому ўладу…

Чалавек саўковага мыслення трымаецца таго, што злачынца мусіць быць пакараны, “каб іншым не было панадна”. На жаль, мы знаем шмат прыкладаў, калі і суды нярэдка трымаюцца такой жа пазіцыі. Многія праваабаронцы, журналісты і актывісты грамадзянскага сектара лічаць, што яшчэ больш жорсткую пазіцыю займаюць міліцыянты і “людзі ў цывільным”. Дзе яшчэ той суд, а яны ўжо самі гатовы чыніць расправу — іншага слова да такіх паводзін праваахоўнікаў у мяне няма… Не думаю, што апошні гуманны акт прэзідэнта паўплывае на выпраўленне гэтай сітуацыі ў лепшы бок.

**БАРЫС СЯМЁНАЎ, ВІКТАР ВОЙТ**



**Заснавальнік** ТАА “Тут і цяпер” **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактар** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 23:45 19.04.12
Тыраж 299 экзэмпляраў